Вучэбнае выданне

Лапко Канстанцін Мікалаевіч
Рагойша Аляксандр Антонавіч

Руска-беларускі слоўнік па агульнай хіміі

Адказны за выпуск К.М.Лапко

Падпісана да друку 22.07.92. Фармат 60х84/16. Папера друк.№ 3.
Друк афсетны. Умоўн.друк.арк. 0,69 Умоўн.фарбаадбіт. 0,69
Ул.-выд.арк. 0,6 Тыраж 300 асоб.Заказ № 556. Бясплатна.

Белдзяржуніверсітэт. 220050, Мінск, пр. Ф.Скарыны, 4.
Надрукавана на ратапрынце Белдзяржуніверсітэта.
220050, Мінск, Бабруйская, 7.

2



____СТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ОРДЭНА ПРАЦОЎНАГА ЧЫРВОНАГА СЦЯГА
ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ

Хімічны факультэт
Кафедра агульнай хіміі і
методыкі выкладання
хіміі

# РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК ПА АГУЛЬНАЙ ХІМІІ

Мінск 1992

СкладальнікI: А.А.Рагойша, К.М.Лапко

Зацверджана на савеце факультэта
24 чэрвеня 1992 г., пратакол № 8

## Структура слоўнIка

РускIя тэрмIны размешчаны ў першым слупку слоўнIка ў алфавIтным парадку.

У другIм слупку даецца пераклад слова на беларускую мову. Для некаторых назоўнIкаў прыведзена форма роднага склону (галоўным чынам, з канчаткам -у), напрыклад: аналIз, -зу. БлIзкIя па сэнсу словы прыведзены ў дужках.

У трэцIм слупку можна знайсцI адпаведныя аднакарэнныя словы цI прыклады словазлучэнняў, якIя найбольш часта сустракаюцца ў курсе агульнай хIмII.

СкладальнIкI просяць прабачэння за тое, што па тэхнIчных прычынах у беларускIм тэксце замест лIтары і ўжываецца лIтара I.



| | | |
|---|---|---|
| активный | актыўны | каэфIцыент актыўнасцI |
| аллотропия | алатропIя | алатропная мадыфIкацыя |
| анализ | аналIз, -зу | колькасны I якасны аналIз |
| анион | анIён, -на | анIённы склад раствору |
| атомизация | атамIзацыя | цеплыня атамIзацыI |
| безразмерный | беспамерны | беспамерная велIчыня |
| бесконечность | бясконцасць | |
| бесцветный | бясколерны, бескаляровы | |
| благородный | высакародны | высакародны газ (метал) |
| блеск | бляск, блIск | блестящий - блIскучы |
| блестеть | блIшчэць | |
| большинство | большасць | у большасцI выпадкаў |
| брызги | пыркI | |
| брызгать | пыркаць | брызнуть - пырснуць |
| валентность | валентнасць | метад валентных сувязяў (ВС) |
| величина | велIчыня | бясконца малая велIчыня |
| вероятно | магчыма, мабыць | вероятность - магчымасць |
| вероятность(мат.) | Iмавернасць | тэорыя IмавернасцI |
| вес | вага (ж.р.) | вагавыя суадносIны |
| весы | вагI, -гаў; шалI | |
| вещество | рэчыва | рэчыва пераменнага складу |
| взаимодействие | узаемадзеянне | $O_2$ не ўзаемадзейнIчае з $CI_2$ |
| взбалтывать | узбоўтваць, скаланаць | |
| взвесь | завIсь, -сI | седыментацыя завIсI |
| взвешивать | узважваць | взвешенный - узважаны |
| взрыв | выбух, -ху | выбуховае рэчыва |
| включение | уключэнне | злучэнне ўключэння |
| вкус | смак, -ку | вкусовой - смакавы |
| влага | вIльгаць | влажный - вIльготны |
| влияние | уплыў | узаемны ўплыў атамаў |
| влиять | уплываць, рабIць уплыў | |
| внести | унесцI | вносить - уносIць |
| внешний | знешнI, вонкавы | знешнI электронны ўзровень |
| внешняя среда | знешняе асяроддзе | |
| внутренний | унутраны | унутраны электронны слой |
| возбудить | узбудзIць | узбудзIць электрон |
| возбуждение | узбуджэнне | узбуджаны стан атама |
| воздействие | уздзеянне, уплыў | уздзейнIчаць, уплываць |
| воздух | паветра | воздушный - паветраны |

| | | |
|---|---|---|
| возможность | магчымасць (мажлIвасць) | |
| волна | хваля | хвалевая тэорыя атама |
| воронка | лейка | дзялIльная (кропельная) лейка |
| восстановление | аднаўленне | восстановитель – адноўнIк |
| восстановительный – аднаўленчы | | аднаўленчая актыўнасць |
| вращение | кручэнне, вярчэнне | вярчальны рух |
| вредный | шкодны | шкодзIць; шкоднасць |
| время | час | временный – часовы |
| всасывать | усмоктваць, засмоктваць | |
| вскипятить | закIпяцIць | |
| встряхивать | трэсцI, устрэсваць | встряхивание – устрэсванне |
| встряхнуть | страсянуць, скалануць | |
| вторичный (производный) – другасны | | другасная структура |
| вторичный (не основной) – другарадны | | другарадныя адзнакI |
| выделять | вылучаць | вылучаецца бясколерны газ |
| вырожденный | выраджаны | выраджаны стан |
| газообразный | газападобны | газападобны стан рэчыва |
| галогенопроизводное – галагенавытворнае | | |
| гидратированный | гIдратаваны | гIдратаваны Iон лIтыю |
| гидроксид | гIдраксIд | гIдраксIд натрыю |
| граница | мяжа | граничить – межаваць |
| давление | цIск | атмасферны цIск |
| дважды | двойчы | $Fe(OH)_2$ :ферум-о-аш-двойчы |
| движение | рух | паступальны рух |
| двойственный | дваIсты | дваIстая прырода электрона |
| двойной | падвойны | падвойная соль |
| действие | дзеянне | |
| диспергирование | дыспергаванне | |
| диспропорционирование – дыспрапарцыраванне | | |
| диссоциация | дысацыяцыя | ступень (канстанта) дысацыяцыI |
| дистиллированный | дыстыляваны | дыстыляваная вада |
| диэлектрический | дыэлектрычны | дыэлектрычная пранIкальнасць |
| длина | даўжыня | даўжыня хIмIчнай сувязI |
| длительный | працяглы | длительность – працягласць |
| доказательство | доказ, -зу | |
| дополнительный | дадатковы | |
| единица | адзIнка | кIлаграм – адзIнка масы |
| единичный | (при сущ. в ед. ч.) – адзIнкавы | |
| единичный | (при сущ. во мн.ч.) – паасобны | |
| единичный | (индивидуальный) – адзIночны | |



| | | |
|---|---|---|
| ёмкость | ёмIстасць | ёмIстасць электроннай абалонкI |
| жесткость | цвердасць (калянасць) | |
| жесткость воды – жорсткасць вады | | |
| жидкость | вадкасць | вадкI стан рэчыва |
| жир | тлушч | растительный жир – алей |
| завершенный | завершаны | напалову завершаны падузровень |
| зависимость | залежнасць | перыядычная залежнасць |
| загрязнить | забрудзIць | забруджванне атмасферы |
| зажечь | запалIць | |
| закон | закон, -ну | закон дзеючых мас |
| замедлить | запаволIць, замарудзIць, сцIшыць | |
| замечать | заўважаць | |
| заместитель | замяшчальнIк | |
| замещение | замяшчэнне | рэакцыя замяшчэння |
| занимать | займаць | электрон займае р-арбIталь |
| запах | пах, -ху | прыемны (дрэнны, кепскI) пах |
| заполнить | запоўнIць | запаўненне арбIталяў |
| заряд | зарад | дадатны, адмоўны зарад |
| заряжать | зараджаць | заряженный – зараджаны |
| затрата | выдатак, затрата | выдатак энергII на разрыў сувязI |
| затратить | выдаткаваць, патрацIць, затрацIць | |
| звук | гук | |
| значение | значэнне | значительный – значны |
| зола | попел | |
| избыток | лIшак, -шку | дадаць лIшак раствору HCl |
| известковая вода | вапнавая вада | |
| известь | вапна | известняк – вапняк |
| излучение | выпраменьванне | цеплавое выпраменьванне |
| изменение | змяненне, перамена, змена | |
| измерять | вымяраць (мераць, вымерваць) | |
| иод | ёд, -ду | ёдзIсты, ёдны, ёдаваны, ёдыд |
| ион | Iон | катыён, анIён – Iоны |
| ионизация | IанIзацыя | ионизированный – IанIзаваны |
| ископаемое | выкапень, -пня; (мн.л.) -пнI | |
| испарение | выпарэнне; выпарванне | |
| использовать | выкарыстаць, ужыць, скарыстаць | |
| исходный | зыходны | зыходнае рэчыва |
| исчезать | знIкаць | знIкненне афарбоўкI раствору |
| кажущийся | уяўны | уяўная ступень дысацыяцыI |
| капля | кропля | кропельная лейка |

| | | |
|---|---|---|
| катион | катыён, -на | катыянIт |
| качественный | якасны | якасны I колькасны склад |
| квасцы | галын, -ну | алюмакалIевы галын |
| керосин | газа (ж.р.) | |
| кипяток | кIпень | кипятить – кIпяцIць |
| кислородсодержащий – кIсларододзмяшчальны, кIслародутрымлIваючы | | |
| кислота | кIслата | кIслотаўтваральны элемент |
| количество | колькасць | колькасны аналIз |
| комнатная температура – хатняя тэмпература | | |
| комплексный | комплексны | комплексаўтваральнIк |
| концентрация | канцэнтрацыя | канцэнтраваны раствор |
| косвенно | ускосна | |
| краска | фарба | краситель – фарбавальнIк |
| кристалл | крышталь | крышталIчны, крышталападобны |
| кристаллизация | крышталIзацыя | крышталIзатар |
| кристаллогидрат | крышталагIдрат | |
| купорос | купарвас | |
| луч | прамень, -мяня; (мн.л.): промнI, прамянI | |
| медленный | павольны (спIшаны) | |
| месторождение | радовIшча | радовIшча калIйных соляў |
| многократный | шматразовы | |
| момент | момант, -ту | дыпольны момант малекул |
| мрамор | мармур | мармуровы |
| наблюдать | назIраць, наглядаць | |
| наличие | наяўнасць | |
| направленность | накIраванасць | накIраванасць сувязI |
| направление | кIрунак, -нку; напрамак | |
| | по направлению к – у кIрунку да | |
| напряжение | напружанне | рад напружанняў металаў |
| наружный | вонкавы | вонкавы электронны слой |
| насос | помпа | водаструменная помпа |
| насыщенный | насычаны | ненасычаны раствор |
| насыщаемость | насычальнасць | насычальнасць сувязI |
| насыщенность | насычанасць | каардынацыйная насычанасць |
| неделимый | непадзельны | |
| незавершенный | незавершаны | незавершаны ўзровень |
| незначительный | нязначны | нязначны ўплыў |
| неизменный | нязменны (сталы) | |
| необходимый | неабходны | неабходная маса рэагента |



| | | |
|---|---|---|
| неопределенный | нявызначаны, неакрэслены, няпэўны | |
| неопределенный(мат.)-неазначальны | прынцып неазначальнасцI | |
| неподвижный | нерухомы | |
| непосредственный-непасрэдны | | |
| непрерывный | безупынны, бесперапынны | |
| нерастворимый | нерастваральны | |
| неспаренный | няспараны | няспараны электрон |
| несвязывающий | несувязны | несувязная электронная пара |
| обесцветить | пазбавIць колеру, абясколерыць | |
| обесцвечиваться | трацIць колер, абясколервацца | |
| обжиг | абпал, -лу; абпальванне | |
| облако | воблака | форма электроннага воблака |
| обобщение | абагульненне | абагульненыя электроны |
| оболочка | абалонка | будова электроннай абалонкI |
| оборудование | абсталяванне | |
| обосновать | абгрунтаваць | обоснованный – абгрунтаваны |
| образец | проба | |
| образовать | утварыць, стварыць | утварэнне сувязI |
| обратимость | абарачальнасць | абарачальныя рэакцыI |
| обратный | зваротны, | прамая I зваротная рэакцыI |
| общий | агульны | агульная электронная пара |
| обычный | звычайны | пры звычайных умовах |
| ограниченный | абмежаваны | абмяжоўваць |
| одинаковый | аднолькавы | аднолькавы агрэгатны стан |
| одновременно | адначасова, адначасна | |
| окислитель | акIсляльнIк | |
| окислительно-восстановительная реакция – акIсляльна-аднаўленчая р. | | |
| окисел | вокIсел, -слу | окись – вокIс, -су |
| окрасить | афарбаваць | афарбаваны |
| окраска (цвет) – афарбоўка (колер) | | |
| окружающая среда | навакольнае асяроддзе | |
| оксид | аксIд, -ду | несолеўтваральны аксIд |
| определить | вызначыць | |
| опыт | дослед, -ду | |
| орбиталь | арбIталь | гIбрыдызаваная арбIталь |
| ориентировать | арыентаваць | арыентацыя арбIталI |
| осадок | асадак, -дку | осаждение – асаджэнне |
| основание | аснова | асноўныя ўласцIвасцI |
| осушать | асушваць | осушенный – асушаны |

| | | |
|---|---|---|
| отверстие | адтулIна, дзIрка | |
| отличие | адрозненне | отличать - адрознIваць |
| отличительный | адметны | адметная(характэрная) адзнака |
| отметить | адзначыць | |
| относительный | адносны | адносная малекулярная маса |
| относительность | адноснасць | тэорыя адноснасцI |
| отношение | адносIны (толькI мн.л.) | |
| отрицательный | адмоўны | адмоўны зарад анIёну |
| отталкивание | адштурхванне, адпIханне, адпIхванне | |
| оттенок | адценне | |
| охлаждать | астуджваць | |
| пар | пара, -ры | вадзяная пара |
| перегруппировка | перагрупоўка; перагрупоўванне | |
| перекрывание | перакрыванне | |
| период | перыяд | перыядычнасць уласцIвасцяў |
| питьевой | пIтны | пIтная вада, пIтная сода |
| пламя | полымя | афарбоўка полымя |
| плотный | шчыльны | электронная шчыльнасць |
| поваренная соль | спажыўная (кухонная) соль | |
| поверхность | паверхня | |
| повторяемость | паўтаральнасць | |
| поглощать | паглынаць | паглынанне энергII |
| подвижный | рухомы | рухомая раўнавага |
| подвижность | рухавасць | |
| подгруппа | падгрупа | (галоўная,пабочная падгрупа) |
| поджечь | падпалIць | |
| подуровень | падузровень | энергетычны падузровень |
| показатель | паказчык | вадародны паказчык |
| полезный | карысны | карысны выкапень |
| положительный | дадатны | дадатны зарад пратону |
| полупроводник | паўправаднIк | |
| получить | атрымаць | атрыманне |
| поместить | змясцIць | |
| последовательный | паслядоўны | паслядоўнасць запаўнення |
| постепенно | паступова | |
| посуда | посуд | |
| потенциал | патэнцыял | патэнцыял IанIзацыI |
| превращать | ператвараць | ператварэнне |
| предвнешний | перадзнешнI | перадзнешнI ўзровень |



| | | |
|---|---|---|
| предыдущий | папярэднI | папярэднI ўзровень |
| преимущественно | пераважна | |
| прибор | прылада, апарат, прыбор | |
| признак | адзнака; прыкмета, прымета | |
| применение | ужыванне | |
| присоединять | далучаць | |
| притяжение | прыцяжэнне | |
| пробка | корак | |
| продолжительность - працягласць, даўжыня | | |
| прозрачность | празрыстасць | празрысты раствор |
| произведение | здабытак | ПР -здабытак растваральнасцI |
| производное | вытворнае | галагенавытворныя злучэннI |
| прокалить | прагрэць | |
| промежуточный | прамежны, прамежкавы | |
| проскок | праскок, пераскок | пераскок электрона |
| простой | просты | простае рэчыва |
| пространство | прастора | прасторавая арыентацыя |
| противоположный | процIлеглы, супрацьлеглы | |
| прочный | трывалы, моцны | моц хIмIчнай сувязI |
| путь | шлях ; шлях праходжання хIмIчнага працэсу | |
| равенство | роўнасць | знак роўнасцI (=) |
| равновесие | раўнавага | стан хIмIчнай раўнавагI |
| равновесный | раўнаважны | раўнаважныя канцэнтрацыI |
| равноценный | раўнавартасны | |
| радиус | радыўс, -са | эфектыўны радыўс атама |
| разделение | раздзел, падзел, раздзяленне | |
| разложение | раскладанне | рэакцыя раскладання |
| разветвленный | разгалIнаваны | разгалIнаваная рэакцыя |
| размер | памер, -ру; размер, велIчыня | |
| разрушение | разбурэнне | |
| распаривание | распарванне | распарванне электронаў |
| располагаться | размяшчацца | |
| распределение | размеркаванне | размеркаванне электронаў |
| распространенность - распаўсюджанасць | | |
| расстояние | адлегласць | |
| раствор | раствор, -ру | раствор электралIту |
| растворимый | растваральны | цяжкарастваральная соль |
| растворитель | растваральнIк | |
| расщепление | расшчапленне | расшчапленне ўзроўня |

| | | |
|---|---|---|
| реагировать | рэагаваць | реакция – рэакцыя |
| реагирующее вещество – рэагент | | реактив – рэактыў, -тыву |
| реакционноспособный – рэакцыйназдольны | | |
| резина | гума | резиновый– гумовы, гумавы |
| самопроизвольный–самаадвольны | | працэс Iдзе самаадвольна |
| свободный | свабодны,вольны | свабодная арбIталь |
| свойство | уласцIвасць | хIмIчныя ўласцIвасцI |
| связь | сувязь | кавалентная палярная сувязь |
| связывающий | сувязны | сувязныя электроны |
| сдвиг | зрух,-ху | зрух электроннай шчыльнасцI |
| селитра | салетра | амIячная салетра |
| сжатие | сцIск, -ку | лантаноIдны сцIск |
| сжигание | спальванне | |
| сжижать | звадкоўваць | звадкаваны газ |
| сила | моц | моцныя I слабыя электралIты |
| скорость | хуткасць | хуткасць хIмIчнай рэакцыI |
| сложный | складаны | складанае рэчыва |
| смесь | сумесь, -сI | раздзяленне сумесI |
| смещать | зрушваць | зрушванне хIмIчнай раўнавагI |
| снаружи | звонку | другI звонку ўзровень |
| совместный | сумесны | сумесны гIдролIз |
| согласованный | зладжаны, узгоднены | |
| содержать | змяшчаць, утрымлIваць | |
| содержимое (колбы) – змесцIва (колбы) | | |
| соединение | злучэнне | рэакцыя злучэння |
| соль | соль | сярэдняя, кIслая, асноўная соль |
| соотношение | суадносIны (толькI мн.л.) | |
| сопряжение | спалучэнне | эфект спалучэння |
| состав | склад, -ду | якасны I колькасны склад |
| составить | скласцI | скласцI ўраўненне рэакцыI |
| состояние | стан, -ну | стан электрона ў атаме |
| состоять из | складацца з | |
| сохранить | захаваць | закон захавання энергII |
| спаренный | спараны | неспараныя электроны |
| способность | здольнасць | рэакцыйная здольнасць |
| сравнить | параўнаць | |
| среда | асяроддзе | навакольнае асяроддзе |
| средство | сродак, -дку | |
| сродство к электрону – схIльнасць да электрона | | |



| | | |
|---|---|---|
| стакан | шклянка | фарфоравая шклянка |
| стекло | шкло | шкляны лабараторны посуд |
| степень | ступень | ступень акIслення |
| столкновение | сутыкненне | |
| строение | будова | будова атама |
| существенный | Iстотны | Iстотныя адрозненнI |
| твердый | цвёрды | цвёрды агрэгатны стан |
| теплота | цеплыня,цеплата | цеплавы эфект рэакцыI |
| точность | дакладнасць | з дакладнасцю да |
| трижды | тройчы | $Cr(OH)_3$: хром-о-аш-тройчы |
| увеличивать | павялIчваць | радыўс павялIчваецца |
| угол | вугал, -гла | валентны вугал |
| уксус | воцат | воцатная кIслата |
| уменьшать | памяншаць, змяншаць | |
| уравнение | ураўненне | ураўненне рэакцыI |
| уравнивание | ураўнаванне; ураўноўванне | |
| уравнивать | ураўноўваць, раўнаваць | |
| уровень | узровень | знешнI I перадзнешнI ўзроўнI |
| усиление | узмацненне | |
| условие | умова | стандартныя ўмовы |
| усложнять | ускладняць | |
| устойчивый | устойлIвы | устойлIвая канфIгурацыя |
| формулировать | фармуляваць | формулировка – фармулёўка |
| хватать | хапаць, ставаць | не хватает – не стае |
| хрупкий | крохкI, ломкI | крохкасць, ломкасць |
| цвет | колер, -ру | цветной – каляровы |
| целочисленный | цэлалIкавы | |
| цепь | ланцуг, -га | ланцуговая рэакцыя |
| частица | часцIнка | |
| число | лIк | галоўны квантавы лIк |
| щелочной | шчолачны | KOH – шчолач |
| экзо-, эндотермический – экзатэрмIчны, эндатэрмIчны | | |
| электроотрицательность – электраадмоўнасць | | |
| энергия | энергIя | патэнцыяльная энергIя |
| явление | з'ява | прыродныя з'явы |
| ядро | ядро, -ра | эфектыўны зарад ядра |
| ядерный | ядзерны | ядзерная мадэль атама |